


# Покліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №17 (110)
СНЕЖАНЬ 2011 ГОДА


**“Покліч волі” ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# ДЫКТАТАР І ДЭМАКРАТ

**17 снежня сканаў “любімы кіраўнік нацыі” Кім Чэн Ір, а ў наступны дзень не стала першага прэзідэнта новай Чэскай Рэспублікі Вацлава Гавэла. Сышлі дзве неардынарныя асобы, паміж якімі – прорва. Першы адгарадзіў сябе, сваю краіну і яе грамадзянаў ад усяго свету, другі быў адкрыты свету гэтак жа, як і чэскі народ. Дыктатар і дэмакрат, як персанажы Гавэлаўскіх п’есаў, увасобілі сваімі лёсамі дзве асноўныя сцяжыны палітычнага існавання. Дыктатар сілкуецца страхам свайго народу, дэмакрат нясе яму новыя ідэі і рухае наперад увесь свет.**

Кім Чэн Ір аднаасобна кіраваў Паўночнай Карэяй каля 17 гадоў.

Правадыр нацыі памёр яшчэ ў суботу « ад фізічнага і разумовага знясілення», але ўвесь свет даведаўся пра скананне на дзень пазней, чым пра смерць Гаўла. «Вялікі, мудры, каханы кіраўнік, сонца нацыі, пуцяводны прамень 21-га стагоддзя» паводле афіцыйнай біяграфіі нарадзіўся 16 лютага 1942 г. ў халупе на святой гары Пэктусан. У гэты момант на небе з’явілася падвойная вясёлка і заблішчала яркая зорка. Хоць савецкія архівы кажуць пра тое, што Юрый Ірсэнавіч Кім нарадзіўся на год раней у сяле Вяцкае Хабараўскага краю, дзе яго бацька, капітан Кім Ір Сэн, служыў у шэрагах Чырвонай Арміі.

Дзіўныя прыродныя з’явы былі заўважаны ў Паўночнай Карэі і пасля смерці лідара краіны. Як перадае дзяржаўнае інфармацыйнае агенцтва ЦТАК, раніцай, 17 снежня, на возеры Чханчжы, размешчаным у кратары святой для карэйцаў гары Пэктусан з гучным трэскам раскалоўся лёд. Па дадзеных агенцтва, нават прырода смуткуе пра смерць правадыра.

Пра асабістае жыццё і сям’ю амаль нічога не вядома. Казалі, што ён любіў вытанчаную ежу, дарагі алкаголь, аўтамабілі і жанчын, захапляўся верхавой яздой, любіў арлоўскіх рысакоў.

Замежныя журналісты часта параўноўвалі культ асобы Кім Чэн Іра з культам асобы Сталіна і з феадальнай карэйскай манархіяй, якая кіравала да 1910 г. У 2004 годзе замежныя эксперты адзначылі, што Кім Чэн Ір наважыўся прыслабіць свой культ асобы: са сцен кабінетаў афіцыйных устаноў былі прыбраны яго партрэты, а паўночнакарэйская прэса перастала называць яго «любімым кіраўніком нацыі».

Як і любы дыктатар, Кім Чэн Ір браў на сябе замнога: але ў адрозненні ад многіх не праводзіў ніякіх сходаў, ні з кім не раіўся, бо ведаў усё! Таму толькі даваў парады, як і што трэба зрабіць. Карэйцам “пашчасліла”: ім не трэба было нават думаць–за іх гэта рабіў іхні кіраўнік. Мо таму, такімі несуцешнымі выглядаюць яны ў часы свайго смутку. Нешта падобнае было і ў СССР на паховінах Сталіна. Але не хацеў бы я быць на іхнім месцы, таму, што ўсё зробленае гэтым чалавекам змяшчаецца ў адным, але ёмкім слове “дыктатар”, паводле якога– усё ягонае жыццё і нават смерць – міф!

А вось другая постаць: Вацлаў Гавэл, першы чэшскі прэзідэнт пасля перамогі Аксамітавай рэвалюцыі над камуністычным рэжымам.

Як драматург, дысідэнт і ўдзельнік праваабарончай ініцыятывы «Хартыя 77», Гавэл атрымаў міжнародную вядомасць яшчэ ў 70-х гадах мінулага стагоддзя. Пасля падзей Пражскай Вясны 1968 г. неаднаразова арыштоўваўся. У 1975 г. напісаў «Адкрыты ліст Густаву Гусаку». Ў 1979 г. супрацоўнік В. Гаўла і пяці іншых чэшскіх дысідэнтаў было вылучана абвінавачванне ў падрыўной дзейнасці. Гавэл быў кінуты ў турму і асуджаны на 4,5 гады зняволення.

У гады ягонага кіравання Чэхаславакія перайшла да дэмакратыі і рынкавай эканомікі. Пры Гавэле адбыўся мірны падзел краіны на Чэхію і Славакію ( 1993 г.), а сам Гавэл яшчэ 10 гадоў займаў пасаду прэзідэнта Чэхіі. Яму ўдалося правесці паспяховыя эканамічныя рэформы ў постсацыялістычнай краіне, якія супадалі з ідэаламі дэмакратыі і гуманізму, якія вызнаваў Гавэл; дабіцца вываду савецкіх войскаў. Рэвалюцыйныя перамены адбыліся без адзінай чалавечай ахвяры.

Гавэл прыязна ставіўся ды беларускага дэмакратычнага грамадства, сімпатызаваў беларусам, рэзка крытыкаваў Лукашэнку, выступіў у абарону Алеся Бяляцкага, патрабаваў вызвалення беларускіх палітвязняў, разумеў і падтрымліваў змаганне беларусаў за сваю мову, культуру, сваё бачанне гісторыі. Апошнім, што ён зрабіў для Беларусі, была падтрымка вылучэння Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру, а таксама лісты да палітвязняў.

Гавэл вядомы як адзін з самых яркіх палітычных дзеячаў Еўропы перыяду, які паследаваў за разбурэннем Берлінскай сцяны. І калі гаворка заходзіць пра маральнасць у палітыцы, яго імя ўспамінаецца першым. Ён падняў маральную планку палітыка да такой вышыні, да якой паднімаюцца адзінкі, падцягваючы да гэтай вяршыні ўсіх астатніх. Яму прыналежыць выказванне, якое тлумачыць ягоныя прынцыпы і ягоную асобу: «Палітыка не ёсць мастацтва магчымага; палітыка – мастацтва немагчымага».

Не будучы ад прыроды волатам, ён выяўляў цуды мужнасці. Выйшаўшы ў чарговы раз з турмы, і ведаючы пра немінучы арышт у выпадку працягу палітычнай дзейнасці, ён напісаў зварот да народа, распаўсюдзіў яго, і зноў апынуўся за кратамі. Многія, хто бачыў Гавэла ўпершыню ў жыцці, былі расчараваныя тым, што перад імі – не двухмятровы волат, а невысокі, светлы, усмешлівы чалавек.

Сышла Вялікая асоба, а з ёй і цэлая эпоха ў жыцці чэхаў. Шчаслівы народ, што ўзгадаваў такога сына і меў яго за свайго лідара!

І таму стаўленне сённяшніх кіраўнікоў да асобы гэтага выбітнага палітыка выяўляе сутнасць збудаваных імі рэжымаў. Так урад Расіі не выказаў спачуванняў Чэхіі з нагоды скону Вацлава Гавэла, але пры гэтым звярнуўся са словамі спачуваннямі да КНДР у сувязі са смерцю Кім Чэн Іра.

Нават ЗША заўсёды выяўлялі свае спачуванні СССР у сувязі са сконам яго лідараў, нягледзячы на супрацьстаянне з Масквой.

Расія прынесла спачуванні Чэхіі ў сувязі са смерцю Гавэла, але не на ўзроўні першых асоб, а на ўзроўні службоўцаў МУС і працаўнікоў расійскага пасольства ў Празе, на пахаваннях першага чэшскага прэзідэнта Вацлава Гавэла яум будзе прадстаўляць упаўнаважаны па правах чалавека Ўладзімір Лукін.

Нешта падобнае адбываецца і з боку нашай улады. Беларуская афіцыйныя асобы наогул не будуць прысутнічаць на пахаванні былога прэзідэнта краіны Вацлава Гаўла.

Кіраўніцтва Беларусі не накіроўвала нават афіцыйнага спачування блізкім чэскага прэзідэнта, хоць у той жа дзень Лукашэнка выказаў іх ўраду і народу Паўночнай Карэі ў сувязі са смерцю Кім Чэн Іра.

**Рэдактар.**




ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

# Застарэлая цеча ў в. Тапорына

**Жыхары в. Тапорына Заронаўскага сельсавета не ведаюць чыю ваду п’юць, а дакладней – хто ўтрымоўвае на балансе іх вадаправодныя сеткі.**

Бяды вялікай у гэтым жыхары не бачаць, абы перабояў з водазабеспячэннем не было. Зрэшты, бядой абярнулася як раз бесперапыннае водацячэнне з-за парыву трубы. Калі ўлетку лішак вільгаці ўбіраўся ў зямлю, то ўзімку такая наледзь утворыцца, што ні праехаць, ні прайсці. Пра гэта тапорынцы ведаюць з досведу мінулай зімы – больш году цячэ калонка і нікога гэта, акрамя жыхароў, не турбуе.

А справа ў тым, што на баланс прадпрыемства ў Заронаўскім сельсавеце прыняты вадаправодныя сеткі в. в. Варашылы, Пестуніца, Палойнікі, Баршчоўка і Заронава, а ў Тапорына – толькі шахтавыя студні.

У свой час КУСХП «Пестуніца» не падрыхтавала нават мінімальны пакет дакументаў для перадачы вадаправода гэтага населенага пункта. У сельгаспрадпрыемстве змяняліся кіраўнікі, і да гэтай праблемы ніхто не звяртаўся. Цяперашні дырэктар Мікалай Шумілаў і не ведаў, што за гаспадаркай «цягнуцца» тапорынскія вадаправодныя сеткі. Так хто ж спыніць цечу ў Тапорына? Такую паслугу можа аказаць «Вітрайкамгас», але на платнай аснове.

Добра, прынамсі, хоць тое, што вяскоўцы даведаліся, хто гаспадар вадаправодных сетак.

**Ян Сведка.**

# ШКОЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ НАСТАЎНІКАЎ ВІЦЕБСКАГА РАЁНУ(ПРАЦЯГ)

**Далей starikan1984 у сваім блогу распавядае яшчэ пра 2 факты з жыцця настаўнікаў: дзяжурства па школе ў вакацыйны час і дзяжурства на дыскатэках у сельскім клубе.**

Як цвердзіць настаўнік, галоўная мэта ягонага посту: данесці грамадству, у каго ператвараць настаўнікаў і што ім даводзіцца рабіць.

Дзяжурства па школе ў летні вакацыйны час пачынаецца з 1 чэрвеня і сканчаецца 30-31 жніўня. Кожны павінен аддзяжурыць 4 дні з 8.00 - 16.00. За гэта даюць адгулы. У абавязкі дзяжурнага ўваходзіць сядзенне на тэлефоне і прыманне тэлефанаграмаў, нават калі на працы прысутнічае сакратар ( у тэх.персанала адпачынак 28 дзён). Разгледзім рэальны прыклад: настаўніку ў адпачынку выпадае дзяжурства па школе скажам з 15 ліпеня па 18 ліпеня ўлучна (дзяжурства размяркоўваецца ў алфавітным парадку). На працу ён прыехаў да 8.00. У гэты ж дзень у яго дзяжурства па спартзале плюс дзяжурства на дыскатэцы. У 16.00 пачалося дзяжурства па спартзале. У 21.00-23.00 дзяжурства на дыскатэцы. Пытанне: як патрапіць у Віцебск, калі апошні транспарт сышоў у 21.30. ? Вельмі проста: гарадскія настаўнікі (у каго няма ў сям'і машыны) выклікаюць знаёмых таксістаў і плацяць ім 30-50 000 тысячаў. А якой гадзіне трапляе настаўнік дахаты, я думаю, уявіць не цяжка. Зараз самае цікавае: колькі адгулаў зарабіў настаўнік у гэты дзень. Лічым: дзяжурства па школе ў вакацыйны час – 2 адгулы (бо рабіў ён гэта падчас адпачынку), дзяжурства па спартзале – 2 адгулы, дзяжурства ў сельскім клубе 2 адгулы. Разам 6 адгулаў за адну суботу, плюс яшчэ 6 адгулаў за 3 дзяжурствы па школе, усяго атрымліваецца ўжо 12. Зусім забыўся сказаць, што адзін і той жа настаўнік дзяжурыць мінімум 2 разы ў месяц па спартзале і гэтулькі ж на дыскатэцы падчас вакацый (гэта значыць падчас свайго адпачынку). Шляхам нескладаных матэматычных падлікаў вымалёўваецца наступная карціна. Лічым: 4 дзяжурствы па школе – 8 адгулаў, 4 дзяжурствы па спартзале і 4 дзяжурствы на дыскатэцы (за 2 месяца адпачынку) – 16 адгулаў. Разам 24 адгулы.

І ўсё б нічога, калі б не адна акалічнасць: кожны настаўнік сыходзіць у адпачынак па-рознаму, хтосьці 1 чэрвеня і ў яго ёсць верагоднасць гэтыя адгулы адгуляць, а хтосьці 1 ліпеня, і ім небаракам адгуляць іх ніяк не атрымаецца. Вось такое ў нас заахвочванне да працы.

Наступны факт: дзяжурства на дыскатэцы ў сельскім клубе. Гэта самая цікавая тэма і ,на жаль, самая сумная. Прыходзіць настаўнік дзяжурыць на дыскатэку, скажам жанчына, стаж працы якой каля 35-40 гадоў, а яе няўдзячныя (былыя) выпускнікі пачынаюць зневажаць, абражаць, пагражаць і ўспамінаць пра тое, што адзнаку пашкадавала 10-15 гадоў назад. Можна ўявіць нервовы стан гэтага настаўніка.

Напачатку года на першым педсавеце, раздаюць загады пад роспіс, што настаўнікі павінны дзяжурыць на дыскатэцы і несці адказнасць за жыццё дзяцей." Настаўнікі абураюцца, бубняць, але падпісваюць, пры гэтым глядзяць на мяне як на «прышэльца» ў тым сэнсе, што я пайшоў супраць загада аддзела адукацыі. А праблемы пачынаюцца менавіта з падпісання гэтай паперкі. Вось яшчэ адна рэальная гісторыя: гарадскі настаўнік строга па часе прыйшоў на сваё чарговае дзяжурства, узяў адмысловы сшытак, дзе напісаў « заўваг няма». Пасля чаго дамовіўся з заг. клуба, каб той прыглядзеў за парадкам, а сам з'ехаў дахаты ў 21.30. Тым часам нашы школьнікі ў нецвярозым стане прыйшлі танчыць (яны дарэчы з'яўляюцца толькі тады, калі сыходзіць дзяжурны настаўнік) і ўтварылі бойку. Міліцыя апынулася ў патрэбны час у патрэбным месцы. Былі складзены акты на гэтых вучняў па 2 пунктах: 1 – знаходжанне ў грамадскім месцы ў нецвярозым стане, 2– бойка ў грамадскім месцы. Усе паперы былі перададзены ў школу, ІДН і аддзел адукацыі. А зараз, што каму было: вучняў па педсавеце палаялі і паставілі на школьны ўлік (праз 2 месяцы гэты ўлік знялі, за добрыя паводзіны), на ІДН іх таксама паставілі на ўлік (праз 2 месяцы знялі па тых жа чынніках). Што ж было настаўніку: 1– адміністрацыя школы зняла з яго 100% прэміі, 2– аддзел адукацыі напісаў вымову з унясеннем у асабістую справу. І што самае крыўднае: яго схіляюць дагэтуль на ўсіх паседжаннях. А нам кіраўніцтва кажа адну і тую ж фразу: «Паважаныя калегі зноў вы дрэнна працуеце».

Наша адміністрацыя гэта проста цуд. Дырэктар – «ні рыба, не мяса» і завуч скарпіён. У іх вінаватыя ўсё, акрамя іх, хоць яны ні разу не дзяжурылі нідзе. Я прамым тэкстам ім пра гэта заяўляў. А яны мне адказвалі: « Мы адміністрацыя, мы толькі кантралюем». « Значыць і ад правядзення ўрокаў таксама адмоўцеся і будзьце чыстай адміністрацыяй».

Наведнік пад нікам leonid дае адказ starikan1984:" 1. Малайчына што не падпісваешся..

2. 3 часоў вучобы ў вну засвоіў: не кожны загад адпавядае патрэбнаму закону.

Аднойчы патрапіў пад загад пра адлічэнне..Патрапіў пад агульную раздачу, за тое што не паехаў бульбачку перабіраць. Дзякуй г-ну Афанасьеву (быў у нас выкладчык). Ён на занятках добра мне ўставіў у мазгі, што на кожнае дзеянне ёсць законнае процідзеянне.

Ведаеце як было прыемна заявіцца ў дэканат, папытаць копію загада пра адлічэнне для перадачы ў пракуратуру, бо загад парушае правілы вышэйшай школы..Загад на наступны дзень адмянілі і абыйшліся папярэджаннем.

Дык вось, вы маеце права атрымаць копію кожнага загада, дзеянню якога вы падпарадкоўваецеся. Далей спраўджваеце яго са сваімі службовымі абавязкамі ці з кантрактам, дзе павінны быць паказаны падобныя рэчы... Магу вам сказаць наступнае:калі вы добры і добрасумленны працаўнік і абгрунтавана не давайце выціраць аб сябе ногі – у вас больш шанцаў зрабіць кар'еру чым у таго, хто будзе анучай."

**Якаў Дрозд.**

## У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# На Дзвіне пабудуюць ГЭС

**Як сцвярджаюць адмыслоўцы, сабекошт гідраэлектраэнергіі нашмат танней электрычнасці з выкапнёвай сыравіны. Але выкарыстанне гідраэнергетычнага патэнцыялу ў Беларусі ледзь сягае 30 адсоткаў. Да цяперашняга часу не задзейнічаны магчымасці Заходняй Дзвіны.**

Лёд, аднак, крануўся. У перспектыве прадугледжана будаўніцтва на рацэ цэлага каскаду гідраэлектрастанцый. Першая па рахунку – Полацкая. Тут ідзе актыўная праца па ўводзе гідравузла, якую выконвае карпарацыя «Расійскія тэхналогіі». На чарзе – Віцебская, Бешанкавіцкая, Верхнядзвінская ГЭС.

Ад в. Букаціна, што за Лужасна, накатаная лясная дарога вядзе да Заходняй Дзвіны.

Брыгада Менскага УП «Геасервіс» вядзе тут свідравальную выведку, бяруцца глебава-грунтавыя ўзоры пароды. Прыязджалі падрадчыкі – прадстаўнікі кітайскай кампаніі, якая будзе занята узвядзеннем станцыі, узялі спробы для даследавання.

ГЭС на Дзвіне, у адпаведнасці з тэрмінамі кантракту, плануюць здаць у 2015 годзе. Гэта будзе станцыя з гідравузлом і рэчышчавым вадасховішчам. Штогадовая выпрацоўка электраэнергіі для сярэдняга па воднасці года складзе 138 млн. квт/г.

Улічваючы тое, што на Заходняй Дзвіне плануецца ўзвесці цэлы каскад плацін, натуральна, узнікае пытанне: а ці не пагражае ГЭС затапленнем мясцовасці, населеных пунктаў? Падчас грамадскага абмеркавання ўздзеяння станцыі на навакольнае асяроддзе, праведзенага Віцебскім райвыканкамам, выказваліся палярныя пункты гледжання. Адмыслоўцы энергетычнай службы ўпэўнены, што ніякага затаплення вёсак не будзе. Узровень вады захаваецца ў рамках паводкавых. Гэта дасць магчымасць развіваць суднаходства, рыбаразвядзенне, ствараць месцы адпачынку.

Гідраэлектрастанцыя ўпрыгожыць ландшафт. Дзякуючы плаціне з'явіцца рэчышчавае вадасховішча. Пляц люстэрка вадасховішча складзе 1323 га, сярэдняя шырыня – 205 м, максімальная – 640 м, даўжыня – 64,4 км, сярэдняя глыбіня – 4,6 м, Максімальны перапад узроўняў паміж ніжнім і верхнім б'ефамі чакаецца 12,5 м, пляц затапленняў 469 гектараў.

Адмыслоўцы, аднак, адзначаюць, што вадасховішча некалькі змяняе гідрагеалагічныя ўмовы прылеглай тэрыторыі, галоўным чынам з-за падпора грунтавых вод на велічыню падпора павярхоўных. Найперш гэта характарызуецца уздымам грунтавых вод для прыбярэжных палос р. Дзвіна і яе прытокаў. Вадасховішча павялічвае фільтрацыйны прыток вады ў кар'еры РУП «Даламіт» у г.п. Руба ў 1,5 разы. Таксама падтопленымі могуць быць тэрыторыі н.п. Курына, меліяраваныя землі ў раёне возера Седнава.

Уплыў вадасховішча на РУП «Даламіт» і раён возера Седнава патрабуе дадатковага вывучэння.

Інжынернымі мерапрыемствамі прадугледжана падрыхтоўка ложа вадасховішча, абарона ад затаплення і падтаплення земляў, жылых хат. Яны ўключаюць пабудовы дамбаў, каналаў, мацаванне адхонаў берагоў. Будуць уладкаваны прычалы для судоў у в.в. Падбярэззе, Лушчыха, Курына, Хатомля, Сібякі, г. п. Руба і Сураж.

Абслугоўваннем электрастанцыі будзе займацца прафесійны персанал энергетыкаў. Якіх-небудзь аб'ектаў інфраструктуры поруч ГЭС не прадугледжваецца.

Галоўная задача электрастанцыі – падвышэнне ўзроўня энергетычнай самадастатковасці. Яна будзе забяспечваць не толькі спажыўцоў Віцебску і Віцебскага раёна, але і рэалізоўваць магчымасці падачы электраэнергіі ў іншыя рэгіёны.

## НАШЫ ЗЕМЛЯКІ



# Адзіны паштар-мужчына

**Прафесію паштара прынята лічыць жаночай. Вельмі рэдка ў гэтай ролі сустрэнеш мужчыну. У нашым раёне, да прыкладу, адзіны паштар-мужчына – Уладзімір Андрэеў. Пяць гадоў з торбай праз плячо ён ходзіць ад хаты да хаты, ад сяла да сяла, і кліенты вельмі задаволены яго стаўленнем да справы.**

Працуе Андрэеў на перасоўным аддзяленні паштовай сувязі. Гэта значыць машына Рупса прыязджае ў Скрыдлева, дзе жыве Ўладзімір, і перадае яму на рукі ўсю пошту. А далей на ровары ці пешшу ён дастаўляе яе адрасатам.

У зоне абслугоўвання 6 вёсак, кіламятраж туды і зваротна – пад 20 кіламетраў. Найбольш шматлюдныя – гэта Скрыдлева, Стрыганцы, Слабада і Шылкі. Ва Уладзіміраўцы толькі паўдзясятка двароў набярэцца, а ў Лядзішчы і зусім адна сям'я Камлёвых. Але паштар двойчы на тыдзень дастаўляе ім перыёдыку і пошту. Ва ўсіх вёсках Андрэеў заўсёды жаданы госць.

Наогул, Уладзімір з дзяцінства імкнуўся да тэхнікі, набыў спецыяльнасць радыёманцёра, працаваў у віцебскім атэлье «Гарант». Але з гарадской збажыны вярнуўся ў родную вёску, да маці. Трымае вялікую дапаможную гаспадарку, цалкам забяспечваючы сябе малаком і мясам, паказваючы добры прыклад сялянскай працавітасці.

## ДАПАМАЖЫ САБЕ САМ



СЯРГЕЙ ПАРСЮКЕВІЧ

# ЗАНЕСЬЛІ Ў ВІЦЕБСКІ ГАРВЫКАНКАМ АМАЛЬ ТРЫ ТЫСЯЧЫ ПОДПІСАЎ

Подпісы мясцовых жыхароў актывісты кампаніі «Гавары праўду» зьбіралі на працягу апошняга месяца. Узьнятыя людзьмі праблемы ў Віцебску не вырашаліся гадамі.

Паводле мясцовага актывіста кампаніі Сяргея Парсюкевіча, больш за 2300 подпісаў сабрана за адмену аплаты за паркоўку на вуліцы Церашковай, 760 подпісаў — за добраўпарадкаваньне ходнікаў на вуліцы Герцэна. Пад патрабаваньнем адрамантаваць дах дому № 17 па гэтай вуліцы падпісаліся 80 тамтэйшых жыхароў, і яшчэ 60 подпісаў паставілі насельнікі дому № 4 па вуліцы Гарбачэўскага, у якіх такая самая праблема. Апрача рамонту, жыхары гэтых дамоў патрабуюць зрабіць асьвятленьне ў дварах. Сяргей Парсюкевіч кажа: «Плён ад збору подпісаў людзі ўжо адчулі, калі праблемы пачалі хай пацюху, але вырашацца. Прынамсі, цяпер чыноўнікі вымушаныя даваць людзям канкрэтныя адказы, арганізоўваць дваравыя сходы, а не замоўчваць праблему, калі яе ўзьнімалі раней некалькі чалавек і паасобку. За апошнія два месяцы мы падалі ў выканкам сем калектыўных зваротаў».

МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

# ЛІСТЫ БУША І ГАВЭЛА БЕЛАРУСКІМ ПАЛІТВЯЗЬНЯМ

НАПЯРЭДАДНІ КАЛЯДАЎ І НОВАГА ГОДУ БЫЛЫ ПРЭЗЫДЭНТ ЗША ДЖОРДЖ БУШ І ПРЭЗЫДЭНТ ЧЭХІІ ВАЦЛАЎ ГАВАЛ ДАСЛАЛІ ЗА КРАТЫ ЛІСТЫ БЕЛАРУСКІМ ПАЛІТВЯЗЬНЯМ.

"Напярэдадні Раства і Новага году я адпраўляю пасланне міру і надзеі народу Беларусі.

Палітычным зьняволеным і іх сем"ям — Андрэю Саньнікаву, Міколу Статкевічу, Мікалаю Аўтуховічу, Зьміцеру Бандарэнку, Алесю Бяляцкаму, Зьміцеру Дашкевічу, Эдуарду Лобаву і Паўлу Севярынцу — я хачу выказаць сваё захапленне вашай адданасьцю будучай Беларусі, свабоднай і дэмакратычнай.

На мінулыя Каляды мы разам з вашымі шматлікімі прыхільнікамі чыталі імёны сотняў людзей, якія перамаглі страх і былі затрыманыя падчас пратэстаў супраць сфальшаваных выбараў. Хоць бальшыня была вызваленая, многія з вас застаюцца ізаляванымі ад вашых блізкіх і сяброў за вашыя мужныя ўчынкі дзеля свабоды.

На працягу гэтага году сьвет пабачыў нечаканы ўзыход свабоды ў Тунісе, Эгіпце і іншых краінах, якія, на думку шмат каго, былі несумяшчальныя са свабодай. Свабода — усеагульная, і прыдзе дзень, калі яна будзе зьзяць у самых змрочных кутках зямлі.

У гэты сьвяточны час вы мусіце ведаць, што пра вас не забыліся. Лора і я пасылаем нашыя віншаваньні вам і вашым сем"ям, і мы будзем думаць і маліцца пра вас.

Няхай вас блаславіць Бог, каб вы былі на свабодзе і разам з тымі, каго любіце, у 2012.

**Джордж Буш.**
**22 сьнежня 2011.**

**Вацлаў Гавал віншуе беларускіх палітвязьняў**

"Дарагія сябры. Хацеў бы сардэчна вас павіншаваць на парозе новага году і пажадаць вам і вашым блізкім, каб ён быў лепшым, чым мінулы. Выказваю салідарнасць з вашай пазыцыяй і буду і надалей выкарыстоўваць усе магчымасці, каб разам са сваімі сябрамі зьвяртаць увагу міжнароднай грамадзкасці на парушэньне грамадзянскіх правоў у Беларусі.

Жадаю усяго добрага вам і свабоды вашай краіне.

**Вацлаў Гавэл.**
**Градэчэк, 15.12. 2011".**


Reuters

НАША ЖЫЦЦЁ

## БЕЛАРУСАМ ДАВОДЗІЦЦА ЖЫЦЬ НА СТО ДАЛЯРАЎ У МЕСЯЦ

КРЫЗІСНЫЯ З'ЯВЫ Ў ЭКАНОМІЦЫ ПРАМЫМ ЧЫНАМ АДБІЛІСЯ НА ДАБРАБЫЦЕ НАСЕЛЬНІЦТВА. СТАТЫСТЫКА КАЖА АБ ТЫМ, ШТО ПРЫКЛАДНА ТРАЦІНА СУАЙЧЫННІКАЎ МОГУЦЬ ДАЗВОЛІЦЬ ВЫДАТКАВАЦЬ НА СЯБЕ Ў МЕСЯЦ НЕ БОЛЬШ ЗА 900 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ. У ЭКВІВАЛЕНЦЕ - КРЫХУ БОЛЬШ ЗА 100 ДОЛАРАЎ. НА ФОНЕ РОСТУ КОШТАЎ НЕСКЛАДАНА ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО ЯКАСЦЬ СПАЖЫВЕЦКІХ РАСХОДАЎ БЕЛАРУСКІХ СЕМ'ЯЎ КАРЭННЫМ ЧЫНАМ ЗМЯНІЛАСЯ.

**Бюджэт беларускіх сем'яў**

Даведацца пра тое, як змяняецца дабрабыт беларускіх сем'яў, дазваляе выбарачнае абследаванне хатніх гаспадарак, якое праводзіцца Белстатам.

| сума, якой валодае адзін член сям'і | колькасць сем'яў з адпаведным узроўнем даходу (у%) |
|---|---|
| да 900 тысяч рублёў | 35,1% |
| ад 900 тысяч да 1,5 млн. рублёў | 40,7% |
| ад 1,5 млн. рублей да 2 млн. рублёў | 13,6% |
| больш 2 млн. рублёў | 10,6% |

Дадзеныя апошняга выбарачнага абследавання (за трэці квартал), паказвае, што больш за 35% беларускіх сем'яў маюць даход на аднаго члена сям'і да 900 тыс. рублёў.

У пачатку бягучага года беларускія сем'і маглі выдаткаваць на сваіх дамачадцаў значна больш грошай. Паводле даных выбарачнага абследавання хатніх гаспадарак, у першым квартале колькасць сем'яў са сярэднедушавым даходам да 100 даляраў (300 тыс. рублёў) складала па краіне толькі 1,9%! Многія сям'і ў пачатку года маглі выдаткаваць на кожнага дамачадца і 200, і 300, і нават 400 даляраў.

У трэцім квартале мы бачым іншую карціну. Самая вялікая група беларускіх сем'яў (40,7%) можа выдаткаваць на аднаго члена сям'і ад 900 да 1,5 млн. рублёў, гэта значыць у лепшым выпадку 180 даляраў.

У пачатку года найбольш шматлікай групай былі сем'і са сярэднедушавым даходам больш за 200 долараў. Больш за палову (50,6%) беларускіх сем'яў маглі выдаткаваць ў першым квартале на кожнага дамачадца ад 200 да 400 даляраў.

Увогуле, тэндэнцыя не радуе. Магчыма, у пачатку 2012-га сітуацыя з дабрабытам насельніцтва некалькі палепшыцца. Беларускія ўлады раней заяўлялі, што маюць намер у бліжэйшы час пайсці на павышэнне заробкаў. Ходзяць упартыя чуткі, што стаўка першага разраду, да якой прывязвана зарплата бюджэтнікаў, у пачатку наступнага года можа павялічыцца з цяперашніх 151 тыс. да 200 тыс. рублёў. Галоўнае, каб рост заробкаў, як гэта бывае ў нас, зноў не справакаваў рост коштаў.

**На што беларускім сем'ям хапае грошай**

Міністр эканомікі Мікалай Снапкоў калісці ў гэтым годзе заўважыў, што не варта вымяраць беларускія заробкі ў даляраx. «Казаць аб зніжэнні заработнай платы ў доларавым эквіваленце некарэктна. У нас даляр не з'яўляецца валютай плацяжу ў крамах і валютай плацяжу за камунальныя паслугі », - падкрэсліваў летам гэтага года міністр эканомікі.

Сапраўды, цэны ў беларускіх крамах указаны не ў доларах, а ў рублях. Аднак нават супастаўленне заробкаў з рублёвымі коштамі ў крамах кажа аб тым, што пакупная здольнасць беларускіх сем'яў за гэты год рэзка знізілася.

Мы паказалі вышэй, што прыкладна траціна беларускіх сем'яў маглі выдаткаваць у трэцім квартале на сваіх дамачадцаў у месяц не больш за 900 тыс. рублёў. Прапануем параўнаць, што на гэтыя грошы можна было купіць у студзені гэтага года і ў верасні (табл.2).

| тавар | колькасць тавару (кг), якое можна было купіць у студзені | колькасць тавару (кг), якое можна было купіць у верасні |
|---|---|---|
| тварог | 97,9 | 65,6 |
| макаронные вырабы | 285 | 147,1 |
| жывёльны алей | 46,2 | 29,5 |
| рыс | 191,4 | 76 |
| рыба марожаная | 123,6 | 42,3 |
| тушкі курэй | 100,5 | 44,1 |
| яблыкі | 226,1 | 132,8 |

**Кошт мінімальнага набору прадуктаў харчавання, па дадзеных Белстата, павялічыўся ў студзені-верасні ў 1,8 разы.**

Так што, як бачым, нават калі забыцца пра даляры, «які ў нас не з'яўляецца валютай плацяжу», у рублях пакупніцкая здольнасць беларускіх сем'яў таксама прыкметна ўпала. Хочацца, аднак, спадзявацца, што матэрыяльныя магчымасці беларусаў усё ж такі вырастуць. Таму што наўрад ці краіну, дзе людзі жывуць на 100 даляраў у месяц, можна называць «моцнай і квітнеючай».

* Разлікі на аснове сярэдніх цэн Белстата.

**Дзмітрый Заяц,**
**БЕЛАПАН.**

ПАМЯЦІ ВАЦЛАВА ГАВЭЛА

## «СІЛА БЯССІЛЬНЫХ»

ПА ЎСХОДНЯЙ ЕЎРОПЕ БЛУКАЕ ПРЫВІД, ЯКІ НА ЗАХАДЗЕ НАЗЫВАЮЦЬ «ДЫСІДЭНЦТВА».

Гэты прывід - не спараджэнне нябёсаў. Ён арганічна ўласцівы сістэме, якая ў цяперашняй фазе свайго гістарычнага развіцця ўжо даўно не абапіраецца, а па шэрагу прычын і не можа абапірацца, на непрыкрытае і жорсткае беззаконьне ўлады, якое выключае любыя праявы нонканфармізму. А з іншага боку, гэтая сістэма настолькі палітычна інэртныя, што фактычна не допускае ніякага пратэсту ў сваіх афіцыйных структурах.

Хто ж, уласна, яны, гэтыя так званыя «дысыдэнты»? На чым заснавана іх пазіцыя і ў чым яе сутнасць? У чым сутнасць «незалежных ініцыятываў», якія аб'ядноўваюць дысідэнтаў, і наколькі рэальныя шанцы ў гэтых ініцыятывы? Ці дарэчы ўжываць у дачыненні да іх дзейнасці паняцце «апазіцыя»? Калі так, то чым, уласна, такая «апазіцыя» - у рамках гэтай сістэмы - з'яўляецца, якім чынам дзейнічае, якую ролю ў грамадстве гуляе, на што спадзяецца і на што можа спадзявацца? Ці пад сілу наогул дысідэнтам - як людзям, якія знаходзяцца па-за ўсякімі ўладнымі структурамі ў становішчы свайго роду «паўграмадзян», - якім-небудзь чынам уплываць на грамадства і грамадскую сістэму? Ці могуць яны наогул што-небудзь змяніць?

(...)

Між інтэнцыямі посттаталітарнай сістэмы і інтэнцыямі жыцця прасціраецца прорва: у той час, як жыццё арганічна імкнецца да плюралізму і шматкаляровасці, да незалежнасці самавызначэння і самаарганізацыі, карацей кажучы, да рэалізацыі сваёй волі, посттаталітарнага сістэма, наадварот, патрабуе маналітнасці, аднастайнасці, дысцыпліны, у той час, як жыццё імкнецца ствараць усе новыя і новыя неверагодныя «структуры», посттаталітарнага сістэма навязвае ёй «самыя неверагодныя станы».

Лёгка ўявіць сабе грамадства, якое мае добрыя законы, у якім гэтыя законы выконваюцца цалкам і ў якім пры гэтым немагчыма жыць. І можна, наадварот, прадставіць цалкам цярпімае жыццё пры недасканалых або калі недасканала прымяняюцца законы. У выніку галоўнае ў тым, якое само жыццё і служаць яму законы ці ж яны яго душаць, а ні ў якім выпадку не ў тым, ці выконваюцца яны ці не (у рэшце рэшт, часта іх літаральнае выкананне можа стаць для годнага жыцця самай вялікай катастрофай).

Ключы да чалавечага, годнага, забяспечанага і шчаслівага жыцця не захоўваюцца ў канстытуцыі або ў крымінальным законе: тыя толькі рэгламентуюць, што можна і чаго нельга, тым самым жыццё палягчаючы або ўскладняючы, абмяжоўваючы ці не абмяжоўваючы, караюць, прынараўліваюцца або захоўваюць яго, але ніколі не напаўняюць яе зместам і сэнсам.

Улада знаходзіцца ў палоне ва ўласнай хлусні, таму і звяртаецца да фальшу. Фальсіфікуе мінулае. Фальсіфікуе сучаснасць і фальсіфікуе будучыню. Падтасоўваюць статыстычныя дадзеныя. Робіць выгляд, быццам бы ў яе няма ўсёмагутнага і здольнага на ўсе паліцэйскага апарата. Прыкідваецца, што паважае правы чалавека. Прыкідваецца, што ні ў чым не прыкідваецца.

Чалавек не абавязаны ўсім гэтым містыфікацыям верыць. Аднак ён павінен паводзіць сябе так, нібы верыць ім; па меншай меры, моўчкі захоўваць талерантнасць ці хаця б быць у ладу з тымі, хто гэтыя містыфікацыі ажыццяўляе. Ужо хоць бы таму чалавек вымушаны жыць у хлусні. Ён не павінен прымаць хлусня. Дастаткова, што ён прыняў жыццё, якая неаддзельная ад хлусні і немагчымая па-за хлусні. Тым самым ён сцвярджае сістэму, рэалізуе яе, успрымае яе, з'яўляецца ёю.

**Вацлаў Гавэл, 1978 г.**

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# БЕЛАРУСКІ БІЗНЭС НЕ ВЕРЫЦЬ У СПРАВЯДЛІВУЮ АМНІСТЫЮ КАПІТАЛУ

У БЕЛАРУСІ МОЖА БЫЦЬ ПРАВЕДЗЕНАЯ АМНІСТЫЯ КАПІТАЛУ. ПАВОДЛЕ ІНФАРМАЦЫІ НАМЕСНІКА ДЫРЭКТАРА ЦЭНТРА АБАРОНЫ ПРАВОЎ УЛАСНАСЦІ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ КАНФЕДЭРАЦЫІ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА ІГАРА ЛЕДНІКА, НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ ПАПЯРЭДНЕ ЎЖО ПРЫНЯТА ТАКОЕ РАШЭННЕ.

Аднак эксперты сумняюцца, што ўладам, якія б стымулюючыя меры яны ні прынялі, ці ўдасца легалізаваць вялікія аб'ёмы ценявых рэсурсаў. Хто ў разумным розуме купіцца на амністыю капіталу ў краіне, дзе не працуюць законы, дзе ва ўладзе сем пятніц на тыдні і дзе рашэнні могуць прымацца і адмяняцца заднім лікам?

Між іншым, ініцыятыва разгледзець пытанне аб правядзенні амністыі капіталу зыходзіць ад Аляксандра Лукашэнкі. Такое даручэнне прэзідэнт даў ураду і Нацбанку яшчэ 30 жніўня на нарадзе па пытаннях сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны.

Пагадзіцца на правядзенне амністыі капіталу беларускія ўлады вымушаныя з-за вострага недахопу фінансавых рэсурсаў, і гэта відавочна. У сваім лісце ад 14 верасня на імя прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча гэта пацвярджае і кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова.

«У сітуацыі, якая ў цяперашні час напружанай сітуацыі ў фінансавай сферы і ў эканоміцы ў цэлым патрабуецца прыняцце дадатковых эфектыўных мер па стымуляванню прыцягнення ў законны эканамічны абарот фінансавых рэсурсаў, у тым ліку ценявых даходаў і капіталу. У сувязі з гэтым рэалізацыя комплексу мерапрыемстваў па легалізацыі даходаў і амністыі капіталу, мяркуем, вельмі актуальная », - гаворыцца ў лісце.

Пакрысь патрэбнасці ў фінансаванні дазваляюць прамыя замежныя інвестыцыі. Але іх прыцягненне ў сувязі з неспрыяльным інвестыцыйным кліматам ідзе туга. «У гэтым годзе планавалася прыцягнуць 6,5 млрд. даляраў прамых замежных інвестыцый. Па факце мы маем 3,8 млрд. даляраў з улікам продажу «Белтрансгаза». Пры гэтым у рэальны сектар эканомікі было накіравана толькі 770 млн. даляраў », - канстатуе Балточка.

Сітуацыю з інвестыцыямі ў асноўны капітал таксама нельга назваць паспяховай. Па факце за 10 месяцаў аб'ём інвестыцый вырас на 14,3% у параўнанні з пакзчыкамі за аналагічны перыяд мінулага года. «Але рост адбыўся шмат у чым за кошт дэвальвацыі беларускага рубля», - звяртае ўвагу эксперт.

Шэраг фактараў паказваюць на тое, што ў Беларусі высокая патрэбнасць правесці амністыю капіталу. І бізнес-супольнасць падтрымлівае гэты крок. Па словах прадстаўніка дзелавых колаў Ігара Ледніка, амністыя разглядаецца перш за ўсё як інструмент павышэння эканамічнай бяспекі.

«З аднаго боку, за кошт атрыманых дадатковых падаткаў папаўняецца бюджэт, з другога - фінансавыя рэсурсы ўключаюцца ў эканамічны абарот, дапамагаючы ажыццяўляць мадэрнізацыю прадпрыемстваў і павышаць якасць вырабляемай прадукцыі», - адзначае эксперт.

Як падкрэслівае, у сваю чаргу, Антон Болточко, амніставаць ёсць што. «Яшчэ ў 2007 годзе Сусветны банк ацэньваў памер ценявой эканомікі ў Беларусі на ўзроўні 53% ВУП. Цяпер, я думаю, ён складае ўжо больш за 60%. Адтуль і трэба браць грошы, інакш ценявая эканоміка пачне кіраваць намі », - адзначае эканаміст.

Аднак у рамках існуючага заканадаўства правесці амністыю капіталу немагчыма, перакананы саветнік Міжнароднай фінансавай карпарацыі Валеры Фадзееў. «Калі прыняць заканадаўчы акт аб амністыі капіталу, але пры гэтым нічога не памяняць у дзеючым заканадаўстве, мы не даб'емся поспеху», - перакананы эксперт.

Сябра ініцыятыўнай групы па стварэнні «Цэнтра права ЕЗ і прававога развіцця» Максім Корлюк адзначае і яшчэ адзін важны фактар. Насельніцтву і бізнэсу трэба перш за ўсё гарантаваць ананімнасць, а таксама даць гарантыі невыкарыстання выніказ амністыі на шкоду бізнэсу. Па словах эксперта, такія гарантыі ў сукупнасці з іншымі фактарамі дазволілі шэрагу еўрапейскіх краін паспяхова правесці амністыю капіталу.

Так, напрыклад, Бельгія ў свой час за кошт амністыі капіталу фізічных асоб легалізавала 5,6 млрд. еўра, пры гэтым бюджэт паступіла каля 500 млн. еўра. Партугалія ў 2005 годзе такім чынам вярнула ў краіну 43,5 млрд. еўра.

Аднак што б ні вырашылі наверсе, праблема ў тым, што ў Беларусі гэты нумар не пройдзе. Насельніцтва і бізнес ўжо настолькі не давяраюць уладзе, што ніякія запэўніванні ня пераканаюць вывесці капітал з ценю. Ужо не раз, абвясьціўшы эканамічную лібералізацыю, улады давалі задні ход, і наіўныя прадпрымальнікі жорстка пакутавалі. Так, улады ўводзілі, а потым раптам адмянялі мараторый на праверкі, ўводзілі свабоднае цэнаўтварэнне, а потым каралі бізнэс за рост коштаў і змушалі адкручваць кошты назад. З амністыяй капіталу будзе тое ж самае, перакананыя эксперты. Капітал амністуюць, а ўладальнікаў гэтага капіталу потым пасадзяць, прычым з канфіскацыяй - і такі сцэнар выключаць нельга.

**Андрэй Кажамякін, БЕЛАПАН.**

ПРАЦОЎНАЯ ЭМІГРАЦЫЯ

# БЕЛОРУСАМ НУЖНЫ НОРМАЛЬНЫЕ ЗАРПЛАТЫ, А НЕ ПОСЛЕДНИЕ КОПЕЙКИ ИЗ БЮДЖЕТА

АЛЕКСАНДР ЛУКАШЕНКО НЕ СКЛОНЕН ПРЕУВЕЛИЧИВАТЬ ПРОБЛЕМУ ЭМИГРАЦИИ ИЗ БЕЛАРУСИ КВАЛИФИЦИРОВАННОЙ РАБОЧЕЙ СИЛЫ. ОДНАКО СПЕЦИАЛИСТЫ МАССОВО ПОКИДАЮТ БЕЛАРУСЬ.

На пресс-конференции 23 декабря официальный лидер рассказал о своем видении закрепления кадров в Беларуси. «Надо создавать выгодные условия для работы дома», — сказал глава государства.

Вместе с тем он подчеркнул, что «не склонен демонизировать проблему». Ведь человек ищет, где, лучше, как рыба — где глубже. «Одно дело работать в Беларуси за одну тысячу долларов, другое — в Москве за две тысячи», — заметил Лукашенко, пояснив, что если жить семье за одну тысячу долларов в Беларуси, это то же самое, что в Москве за две тысячи долларов.

«Можно жить на воде, на кусочке хлеба, но работать тогда каменщиком будет сложно, плитку укладывать и так далее», — отметил Лукашенко. Он подчеркнул, что жизнь в Москве сопряжена с риском и вспомнил недавний случай, когда шестеро белорусов в Москве погибли в пожаре. Гастарбайтеры жили в строительных бытовках. Понятно, что люди оказались в таких условиях, чтобы сэкономить на жилье и заработать в разы больше, чем могли бы в Беларуси.

### Из Беларуси бегут не от зарплаты в тысячу долларов

В Беларуси в ноябре по сравнению с октябрем 2011 года реальная зарплата (рассчитанная с учетом роста потребительских цен на товары и услуги) уменьшилась на 2,7%. Номинальная начисленная среднемесячная зарплата в январе-ноябре 2011 года составила 1 млн. 840,2 тыс. рублей (около 220 долларов), в том числе в ноябре — 2 млн. 439,7 тыс. (около 290 долларов) и по сравнению с октябрем 2011 года увеличилась на 5,2%, или на 121,7 тыс. рублей.

На промышленных предприятиях средняя зарплата в ноябре этого года составила 2 млн. 877,1 тыс. рублей. В частности, в строительных организациях — 2 млн. 661,8 тыс., в организациях транспорта и связи — 2 млн. 702,9 тыс., сельского хозяйства, охоты и лесного хозяйства — 1 млн. 681,8 тыс. рублей.

Максимальный размер средней зарплаты в ноябре по отдельным отраслям был зафиксирован в сфере финансовой деятельности — 4 млн. 148 тыс. рублей, минимальный — у работников сельского хозяйства, охоты и лесного хозяйства (1 млн. 682 тыс.).

В тоже время, в промышленности Московской области, где нашли себе применение немало белорусов, уровень средней зарплаты составляет почти 30 тысяч российских рублей, то есть около тысячи долларов.

Таким образом, очевидно, что в Россию белорусы, те же строители, бегут не с тысячедолларовых зарплат, а за ними.

Как считает Лукашенко, заработная плата должна расти, но только тогда, когда она будет заработана. «Если мы говорим о повышении зарплат, пенсий — и мы это делали несколько раз в этом году — мы не использовали эмиссионные деньги. Мы повышаем сегодня заработную плату, хоть понемножку, — я это обещал людям — пенсии, пособии и прочее только тогда, когда у нас есть деньги. Есть в бюджете деньги — последнюю копейку отдадим людям», — сказал Лукашенко. Однако, по его словам, «печатать деньги и платить людям нельзя, ибо это инфляция».

Читать полностью: http://naviny.by/

**Елена СПАСЮК, БЕЛАПАН.**

ШЛЯХ УЛАДАЎ

# КИТАЙСКИЕ «ЖИГУЛИ» – МЕЧТА ЛУКАШЕНКО И СЕМАШКО?

ВЛАСТИ УПОРНО НЕ ОСТАВЛЯЮТ ПОПЫТОК ПЕРЕСАДИТЬ БЕЛОРУСОВ НА ДЕШЕВЫЕ (ВО ВСЕХ СМЫСЛАХ) КИТАЙСКИЕ АВТО. НА ПЯТНИЧНОЙ ПРЕСС-КОНФЕРЕНЦИИ ВСЕХ ОШАРАШИЛ ВИЦЕ-ПРЕМЬЕР ВЛАДИМИР СЕМАШКО: УЖЕ ПОДПИСАН ДОГОВОР О СОЗДАНИИ СП С КОМПАНИЕЙ LIFAN. «САЛІДАРНАСЦЬ» ПРИСМОТРЕЛАСЬ К «ЧУДУ» КИТАЙСКОГО АВТОПРОМА.

– Сегодня министр промышленности доложил мне о том, что завершились переговоры и подписаны документы с китайской компанией Lifan о создании в Борисове совместного предприятия легковых автомобилей с максимальной перспективой локализации, — рассказал 23 декабря первый заместитель премьер-министра Владимир Семашко, сообщает БЕЛТА. — Учредителями с белорусской стороны выступят БАТЭ и БелАЗ.

– Привлекая сюда крупную корпорацию, мы говорим: ребята, приходите, мы вам создадим лучшие условия, лучше, чем у соседей, — отметил Александр Лукашенко.

Между тем, инициатива белорусских властей по производству китайских автомобилей не может не настораживать. Во-первых, еще долго не забудется почти анекдотичная история с выпуском в Беларуси «Самандов». Тот же Владимир Семашко в начале года сообщил, что за 5 лет работы иранцы произвели и продали только около тысячи автомобилей – цена на устаревшую модель оказалась неоправданно высокой. Вице-премьер пообещал сотрудничество с иранцами разорвать.

Во-вторых, автомобили Lifan уже с 2008 года собираются на заводе в Карачаево-Черкессии. Производственная мощность предприятия – 50 тысяч авто в год и она далеко не освоена: за первое полугодие в России продано лишь около 7500 автомобилей, сообщает lifan-car.ru. Можно лишь догадываться, зачем белорусским властям создавать в Таможенном союзе второй завод по выпуску непопулярных авто. В-третьих, качество китайских авто, мягко говоря, далеко от совершенства. Рассмотрим две самые популярные модели Lifan, производящееся в России, – Lifan Solano и Lifan Smily.

Седан Lifan Solano внешне похож на Toyota Corolla начала 2000-х годов. Двигатель 1,6 литра с 109 лошадками слабоват и «в гору идет очень неохотно», пишет издание «За рулем». Есть и множество и других проблем: слабая шумоизоляция, неудобные сиденья, двери закрываются лишь с сильного размаха и т.д. Цена – 390 тысяч российских рублей (12,5 тыс. долларов).

Хэтчбек Lifan Smily (грубоватая копия Mini Cooper) удивляет еще больше. Длина малолитражки ультрабюджетного класса (в России она стала производиться лишь в этом году) – 3,7 м, ширина – 1,6 м. Мотор 1,3 л мощностью 89 л. с. разгоняет авто до 100 км/час аж за 14,5 секунды, пишет kp-avto.ru. И, конечно, множество других проблем: шум в салоне после 100 км/ч превращается в вой, высоким людям внутри сидеть неудобно и т.д. Участвовавший в тест-драйве журналист издания «За рулем» поделился с читателями: «Когда ко мне подсел достаточно весовый коллега, «Смайлик» скис. Когда на абсолютно ровной дороге при утопленной в пол педали газа скорость падает от встречного ветра – это нонсенс». Выводы других изданий также неутешительны: «Жигули» с той же загрузкой едут быстрее, если Lifan Smily и способен стать для кого-либо находкой, то только «для небогатого обитателя глубинки». Цена авто – 260 тысяч российских рублей (8,3 тыс. долларов).

Остается пожелать господам Лукашенко и Семашко в полной мере насладиться достоинствами Lifan, лично пересев с продукции западного автопрома на китайские «Жигули».

**Николай Чернявский.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч

**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197

**Падпісана да друку 28.12.2011 у 16.50.** Наклад: 290 асобнікаў.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца з дапамогай аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.